ul. Uniewerstytecka 9
red. Przegląd Wileński

Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобн

№ 12—(52). Вільня, 31 сакавіка 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Першыя крокі.

Выбраны 4 сакавіка 1928 г. Сойм, як паказалі першыя дні ягонае працы, нажаль, у шмат чым падобны да сваіх папярэднікаў. Першы, канстытуцыйны Сойм, маючы эндэцкую большасьць, пад гукі вялікіх пабедных пасьпехаў маршалка Пілсудскага ў вайне з бальшавікамі, думаў толькі аб адным, аб ненавісьці да першага грамадзяніна Польшчы, які будаваў незалежнасьць у муках змаганьня з варожымі полчышчамі камуністых і гнаных імі паднявольных расейскіх масаў пры спагадлівым „наглядальні“ заграніцчных „дэмакратаў“ і „соцыялістых“. І тады, калі лепшыя сыны вольнай Польшчы, бяз розьніцы веры і нацыянальнасьці, пад шчасьлівым і гэніяльным кіраўніцтвам маршалка Язэпа Пілсудскага, крывёю выкоўвалі граніцы і незалежнасьць маладое Рэспублікі, эндэцкія лідэры і Сойм пісалі канстытуцыю, у якой зусім абмежавалі правы начальніка дзяржавы, Прэзыдэнта Рэспублікі, бо думалі, што першым прэзыдэнтам будзе абраны маршалак Пілсудскі.

Пасьля таго, як гэты будаўнічы Польшчы адмовіўся выставіць сваю кандыдатуру на Прэзыдэнта, ня хочучы быць толькі пустым месцам, без правоў і ўплываў на бег жыцьця маладое дзяржавы, варожыя яму сілы папхнулі руку забойцы першага Прэзыдэнта Габрыэля Нарутовіча, які згодай сваёю заняць пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі ў нішто абярнуў думку аб прыгатаванай для маршалка Пілсудскага „залатой клетцы“.

Другі Сойм таксама з пераважаючай варожай асобе, рабоце і ідэолёгіі маршалка Пілсудскага большасьцю, ствараў урады, якія пазбаўлялі магчымасьці працы на карысьць дзяржавы і Народу таго, хто гэтую дзяржаву будаваў у працягу ўсяго свайго жыцьця.

Маршалак Пілсудскі адышоў ад дзяржаўных справаў у заціша свае сям'і ў Сулеюўку, дзе аднак не пераставала яму дакучаць і зьняважаць бясьсільная злосьць тых, каго назваў урэшце сапраўдным імем „гадаў“.

Бясьсільны, разьбіты на многа партыяў другі Сойм, няздольны вытварыць праграмнае палітыкі ўнутраньняга аздараўленьня і здабыць паважаньне заграніцы, тварыў ад выпадку да выпадку парлямэнтарныя ўрады, якія не маглі нічога зрабіць для дабра дзяржавы, бо заўсёды былі залежныя ад няістнуючае згоднае большасьці ў Сойме. Урэшце ў сваём бясьсільлі другі Сойм згадзіўся на пазасоймавы ўрад „спэцыялістых“, але і яны былі залежныя ад добрага гумару партыйных важакоў эндэцыі і Пяста. Ішоў торг інтарэсамі дзяржавы і грамадзян, якія трацілі веру ў сойм і пашану да яго.

Моральная чыстата і дзяржаўная воля „грамадзяніна“ з Сулеюўка, маршалка Пілсудскага загаварыла падзеямі 12 мая 1926 г., калі ён пасьля трагічнага разважаньня з душою сваёю і сумленьнем, пастанавіў

палажыць канец усяму таму безгалоўю, якое дзеялася рукамі эндэцыі і Вітоса.

Узяўшы ў свае рукі кіраўніцтва дзяржавай, Язэп Пілсудскі ў працягу $1^1/_2$ году патрапіў здабыць для Польшчы давер'е заграніцы, атрымаць вялікую заграпічную пазыку, палітычны і гаспадарчы ўклад жыцьця, і ясным шляхам пад кіраўніцтвам маршалка Пілсудскага Польшча ідзе ўперад.

Відзячы прычыну бязмэтнае, нічога для краю не даючае, гутаркі Сойму, дзе ня было здаровае дзяржаўнае большасьці, здольнае да разумнае палітыкі, маршалак Пілсудскі прызваў лепшых людзей да стварэньня Беспартыйнага Блёку супрацоўніцтва з урадам.

Такі блёк утварыўся і правёў 142 паслоў у Сойм, стаўшыся найсільнейшай соймавай групай з ясна выражанай праграмай падтрыманьня маршалка Пілсудскага і яго ўраду ў будаваньні вялікае Польшчы.

Урад зьяўляецца толькі выканаўчай уладай і дзеля згоднае працы ўраду з Соймам Беспартыйны Блёк высунуў кандыдатуру віцэ-прэм'ера праф. Казіміра Бартля, супрацоўніка маршалка Пілсудскага на старшыню Сойму. Гэткае было пажаданьне і воля маршалка Пілсудскага.

Але Сойм пашоў сьлядамі сваіх папярэднікаў, якія не хацелі супрацоўнічаць з маршалкам Пілсудскім і кідалі яму пад ногі каменьні, трэці Сойм адкінуў кандыдатуру К. Бартля і выбраў старшынёю Сойму пэпэсоўца Дашынскага. Такім чынам думка вялікага будаўнічага Польшчы — Пілсудскага аб адданьні ўсіх сілаў на выпрацаваньне згоднага сужыцьця Сойму і Ураду ужо ў першых кроках новага Сойму не знайшла зразуменьня.

Мо' ў далейшых працах Сойм знойдзе шлях згоднага сужыцьця з урадам маршалка Пілсудскага. Гэта зьяўляецца дзяржаўнай неабходнасьцю. Бо толькі дзяржаўны патрыятызм маршалка Пілсудскага патрапіць давясьці Польскую Рэспубліку да таго становішча ў міжнародных адносінах, якое ёй належыцца, і толькі ён здолее выкаваць найлепшыя варункі жыцьця ў краі ў кожнай яго галіне.

## З Сойму і Сэнату.

У аўторак, 27 сакавіка, а 5 г. 30 мін. па палудні прыбыў у Сойм старшыня Рады Міністраў Маршалак Пілсудскі. У Сойме сабраліся ўжо ўсе паслы, бо на гэты дзень склікаў Прэзыдэнт Рэспублікі Сойм і Сэнат. Паводле канстытуцыі новаабраны Сойм адчыняе Прэзыдэнт.

А гадзіне 5 м. 35 увайшоў у Соймавую салю маршалак Пілсудскі, які ад імя Прэзыдэнта Рэспублікі адчыняў новы Сойм. Калі маршалак Пілсудскі падняўся на трыбуну, паслы камуністыя пачалі крычаць—„проч з фашыстоўскім урадам", паслы не камуністычныя адказвалі ім крыкамі: „Колькі грошай дасталі паны з Масквы за гэтыя крыкі".

Калі камуністыя і некаторыя украінцы не переставалі крычаць, маршалак Пілсудскі, зварочваючыся ў іх бок, сказаў: „Паны, будзеце выкінены з салі", крыкі ня спыняліся. Паўтарыўшы

---

## Мэты бальшавікоў у Зах. Беларусі.

Пасьля захвату ўлады ў Расеі бальшавікамі, якіх прыслаў у Расею нямецкі генеральны штаб з мэтай зруйнаваць расейскі ваенны фронт і ўсё жыцьцё ў вялікім краі, толькі што звольніўшымся ад аковаў царскага рэжыму, усе работніцкія партыі ў Заходняй Эўропе з радасьцяй прывіталі пераход ўлады ў рукі соцыялістычнае партыі бальшавікоў, за якіх прымалі і лічылі Леніна і яго кампаноў эўропэйскія соцыялістыя.

Але хутка адносіны да бальшавікоў эўропэйскіх работніцкіх павадыроў і партыяў зьмяніліся з прыхільных на варожыя. Бальшавікі парвалі з соцыялізмам, які зьяўляецца навуковаю грамадзкаю доктрынаю (думкаю), аб'явілі сябе староньнікамі дыктатуры аднае партыі, і забілі ў краі, дзе і дагэтуль грамадзянства ня мела грамадзкага выхаваньня, усялякую свабоду мысьлі і слова. Бальшавікі разагналі ўстаноўчы расейскі сойм, толькі дзеля таго, што выбары не далі ім большасьці і пачалі ўгрунтоўваць сваё уладаньне пры помачы тэрору, забойстваў і зьдзеку над усімі грамадзянамі Расеі. Бальшавіцкі суд зьяўляецца страшнейшым, больш бесчалавечным і пазбаўленым якога-небудзь паняцьця аб справядлівасьці, гэты суд не зьвяртае ніякае ўвагі на довады, на сьведкаў і ўрэшце на віну падсуднага, а найчасьцейшая кара — гэта найвышэйшая мера яе — расстрэл.

Судзьдзямі ў Радавай Расеі зьяўляюцца найчасьцей бальшавіцкія „жандары"-чэкісты і ад іх нельга нават спадзявацца людзкога трактаваньня таго, каго яны-ж пасадзілі на лаву абвінавачаных. Але сотні тысячаў людзей усялякага стану не дачакаліся нават і такога суда — проста расстрэльваліся чэкістымі без суду. Прыдзе час, калі мо' будзе зроблена падлічэньне ахвяраў бальшавіцкага зьверства; цяпер ужо можна сказаць з пэўнасьцю, што за 10 гадоў дыктатуры бальшавікоў, больш згінула ў турмах людзей, чымся за 300 гадоў царскага абсолютызму.

Усе гэтыя Крыленкі, Троцкія, Зіноўевы былі ня раз суджаны за проціўдзяржаўную работу, але неяк царскі суд аставіў іх пры жыцьці. Яны цяпер „разумней" паступаюць — нікога „ня жывяць", хто толькі мае адвагу крытыкаваць іх дыктатуру, нібы работніцка-сялянскую ўладу.

Гэта ўсё добра ведаюць заходня-эўропэйскія работнікі і камунізм сярод іх пасьпеху ня мае, хоць ува многіх краёх камуністычныя партыі існуюць, маюць свае легальныя партыі, часопісі, зьбіраюць зьезды і г. д. Ува ўсіх гэтых краёх

яшчэ два разы гэтую перасьцярогу, маршалак Пілсудскі сказаў пару слоў міністру ўнутраных справаў ген. Славой-Складкоўскаму і той увайшоў з паліцыяй ў соймавую салю. Паліцыя вывяла некалькі паслоў камуністых, левых украінцаў і аднаго вызваленца.

Лявіца Сойму голасна протэставала проціў уваходу ў салю паліцыі і вываду паслоў. Маршалак Пілсудскі тады сказаў: „Перасьцерагаю паноў, што я ня буду ўрадаваць пры крыках і ў гэтых варунках Сойму не адчыню". Калі крыкі ўціхлі маршалак Пілсудскі прачытаў такую адозву Прэзыдэнта Рэспублікі.

„Трэці раз ад мамэнту атрыманьня вольнасьці зьбіраецца Сойм Рэспублікі, і другі раз Сэнат. Першы Сойм распачаў свае абрады тады, калі лёс нашае Дзяржавы яшчэ ня быў пэўны, калі аб муры гэтага гмаху біла рэха вайны, якая вялася за нашыя граніцы, і адгалоскі крывавых змаганьняў нашых салдатаў за права Польшчы да незалежнага жыцьця. Перад калыскай другога Сойму стаяла бледная яшчэ зорка міру, цяжкае стараньне аб палажэньні скарбу Дзяржавы, а што раз чарнейшыя і гразьнейшыя хмары зьбіраліся тады над нашым гаспадарчым жыцьцём.

Паны маеце распачаць сваю працу ў мамэнце ўва многа разоў шчасьлівейшым. Першы Сойм вёў свае нарады падчас вайны, другі распачаў сваю працу тады, калі нашая спакойная праца толькі зараджвалася. Сяньня яна пасунулася ўпярод вельмі значна і з добрымі вынікамі. Агульная опінія краю ацаніла нашую старанную працу над справай ўстанаўленьня і ўцьвярджэньня агульнае згоды і спакою. Спэцыяльная прыязьнь, якая лучыць Польшчу з Францыяй і Румыніяй, дае нам большую пэўнасьць у нашай працы над мірам і яна нікому не пагражае, а дае запэўненьне далейшае працы ў заблутаных і цяжкіх пытаньнях. Урад наш паставіў сабе за спэцыяльнае заданьне сваё палажыць усе стараньні ў наладжаньні згоднага і мірнага сужыцьця там, дзе наладзіць гэта найцяжэй. Бо заўсёды так было, што найбольш спораў было паміж суседзямі.

Наладжаньне міжнародных адносінаў, пазбаўленьне ад усправядлівянай яшчэ да нядаўна баязьні за стан скарбу, пазбаўленьне ад небясьпекі, якая яшчэ два гады таму назад гразіла нашаму гаспадарчаму жыцьцю, ствараюць памысныя варункі для разважнай і спакойнай працы Паноў. Дзеля гэтага лягчэй будзе Паном ужыць свае сілы для паднясеньня матар'яльнай і моральнай культуры гэтак сільна занядбанай у нас не па нашай віне, а па віне другіх.

Жадаю Паном, каб умелі выкарыстаць час для паправы агульна адчуваных бракаў нашага дзяржаўнага ўстрою. Жадаю Паном, каб з найлепшай воляй, лічачыся з рэальнымі патрэбамі жыцьця, шукалі разьвязкі вялікага пытаньня згоднага супрацоўніцтва ўладаў дзяржавы цераз вытварэньне новых падставаў праўных у гэтай галіне і цераз здаровыя абычаі штодзеннага жыцьця. Урэшце жадаю Паном пасьпеху ў вашай працы, які можна асягнуць, як і кожнай людзкой рабоце толькі тады, калі свае стараньні і ўвагі скіруеце на рэчы важныя".

Падпісана Прэзыдэнтам.

„У імя Пана Прэзыдэнта аб'яўляю Сойм адчыненым"—закончыў маршалак Пілсудскі.

Пасьля адчыненьня паседжаньня Сойму маршалак Пілсудскі паклікаў да часовага вядзеньня абрадаў найстарэйшага пасла Бойку. Гэты, як часовы Старшыня Сойму, дабраўшы двух наймалодшых векам паслоў за сэкрэтароў, прыступіў да прыняцьця прысягі ад паслоў і пасьля да выбару сталага Старшыні Сойму, які завецца маршалак. Перад прысягай пасол Яраміч і вызваленец Вазьніцкі хацелі гаварыць, але ім, як непрысягаўшым яшчэ, голасу ня дана. Прысяга адбывалася ў такі спосаб. Адзін з сэкрэтароў прачытаў тэкст прысягі, а другі-ж пасьля вызы-

---

камунізм быў і меў сьпярша прыхільнікаў, але з гадамі яны сталі пакідаць партыю, пазнаўшы праўдзівае аблічча бальшавізму і тое страшнае няшчасьце, якое прынясьлі камуністы ў Расею, дзе зруйнавалі ды зьнішчылі найбагацейшую вялікую краіну. Каб цяпер ў Расеі было пазволена пісаць аб крыўдах, зьдзеках і несправядлівасьцях, якія штодня даконваюцца камуністымі, там крычэў-бы аб гэтым ня толькі кожны чалавек, а загаварылі-б мо' і каменьні.

Бальшавізм імкнецца да сусьветнай рэвалюцыі і дыктатуры, г. зн. панаваньня найбольш бесчалавечных, найгоршых адзінак, уселякага вулічнага зброду над усімі краямі Эўропы і за яе межамі. Камуністыя кіруюцца такім правілам: трэба развальваць, разьбіваць жыцьцё, якое папсавала вайна, трэба вызываць ўсюды замяшаньне, падбурваць людзей проціў ладу ў дзяржаве, пхаць іх у турмы, бо яны кажуць, чым горш, тым лепш. Чым горш будзе жыць у дзяржаве, чым больш будзе нездаволеных, тым хутчэй можна будзе папхнуць іх на вуліцу, на сьмерць, проціў войска і ўлады, а мо' удасца, забраць уладу ў рукі бальшавікоў. Дзеля гэтага камуністыя ў кожнай дзяржаве аплачваюць сваіх агітатараў, выкідаюць на гэта вялікія сумы, якія зьбіраюць ад расейскага сялянства, стараюцца здэзарганізаваць усё, сапсаваць дашчэнту жыцьцё і лёс кожнага, і зрабіць яго сьляпым аружжам для сваіх праступных мэтаў. Ужо ў 1918 г. Ленін казаў, што ў выніку бальшавіцкага рэжыму можа згінуць вялікая Расея, але гэта яго мала абходзіць, хай гіне.

І так усюды, камуністыя працуюць дзеля нішчэньня жыцьця і дабрабыту, каб толькі магчы загарнуць усё пад сваю ўладу, якую маняцца ўтрымаць мордам, расстрэламі і бесчалавечным зьверствам. Бальшавізм, гэта праява ўсіх найгоршых інстынктаў — гэта сыстэма ўлады, якая прызнае забойства, зьдзек над чалавекам і сумленьнем за галоўнае сваё права.

Толькі ў Расеі магчымым стаўся бальшавізм дзякуючы таму, што і работнікі і сяляне былі вельмі цёмнымі і мала культурнымі людзьмі, у сваёй пераважаючай масе няпісьменнымі. А з другога боку нідзе, як у Расеі, так мала ня дбалі аб патрэбы сялян і работнікаў, як у царскай Расеі. І вось бальшавікі зразу паабяцалі ўсё, што толькі можна было прыдумаць гэтым абяздоленым клясам: зямлю, заробкі, свабоду, спакой, багацьце і г. д. і г. д.

Цёмныя расейскія масы, прывыкшыя да ўціску і царскага кнута, упіліся гэтымі абяцанкамі і падтрымалі бальшавікоў. Але хутка пазналі ўсе „дабрадзействы", усю фальш гэтых сусьветных

ваў па прозьвішчы ўсіх паслоў. Названы пасол гаварыў „прысягаю“ (папольску „ślubuję“).

### Выбары маршалка Сойму.

Маршалкам Сойму аказаўся выбраным пасол з Польскай Соцыялістычнай Партыі (P.P.S.) Ігнат Дашынскі, які атрымаў 206 галасоў на 398. Кандыдат выстаўлены цераз Беспартыйны Блёк супрацоўніцтва з Урадам віцэ-прэм'ер Казімір Бартэль атрымаў толькі 142 галасы.

Вынік галасаваньня соймавая лявіца прыняла гучным бравам, а паслы з № 1 выйшлі дэманстрацыйна з салі. За Дашынскага галасавалі П.П.С., „Вызваленьне“, Хлопская Партыя, Украінцы, часьць Беларусаў, Жыды. На кандыдатуру К. Бартля падалі галасы паслы з адзінкі і жыдоўскія сыяністыя з Галіччыны.

### Адчыненьне Сэнату.

А гадзіне 6 м. 30 Старшыня Рады Міністраў маршалак Пілсудскі ад імя Прэзыдэнта адчыніў новаабраны Сэнат, адчытаўшы тую самую адозву Прэзыдэнта, што і ў Сойме.

Згодна з парлямэнцкімі звычаямі, ў Сэнаце меўся вясьці абрады да выбару сталага маршалка найстарэйшы векам сэнатар. Такім ёсьць сэнатар з П.П.С. Ліманоўскі. Але па загаду Прэзыдэнта за часовага старшыню быў пакліканы сэнатар Тульліе. Маршалкам Сэнату аказаўся выбраны Юльян Шыманьскі, прафэсар Віленскага Унівэрсытэту. На віцэ-маршалкаў абраны сэн. Глівіц з Беспартыйнага Блёку, сэн. Познэр з П.П.С. і сэн. Халушчынскі, украінец з украінскага клюбу.

У сераду 28 сакавіка на другім паседжаньні Сойму былі абраны віцэ-маршалкі і сэкрэтары. Усе паслы з Беспартыйнага Блёку падалі белыя карткі і сваіх кандыдатаў не выстаўлялі. Гэта паказвае, што найсільнейшая група ў Сойме не бярэ ўдзелу ў нармальнай працы Сойму ў знак протэсту проціў адкіненьня кандыдатуры праф. К. Бартля на маршалка Сойму. Віцэ-маршалкамі абраны: пас. Возьніцкі з Вызваленьня, п. Домбскі з Хлопскай Партыі, п. Марак з П.П.С., п. Чэтвэртыньскі з эндэцыі і пасол Загайкевіч з Украінскага Клюбу.

## Водгукі працэсу „Грамады“.

У сувязі з працэсам Грамады у № 64 газэты „Kurjer Wileński“ з дня 23 сакавіка паявіўся артыкул пад загалоўкам „Справа Грамады“, у якім аўтор яго — Вог, паміж іншым, кажа: „Селянін беларускі наагул ня мае ініцыятывы, ня верыць у свае ўласныя сілы і гатовы заўсёды чакаць помачы ад нейкіх сілаў з вонку. Грамада — кажа аўтор — у гэным выпадку была выняткам. Грамадаўцы патрапілі ўзгадаваць ў беларускіх масах вяру ў свае сілы, а так сама волю да таго, каб сваімі ўласнымі рукамі тварыць сваю Долю“.

Прызнаючы з сумам факт недахопу ініцыятывы ў нашага сялянства і веры ў свае ўласныя сілы, што зьяўляецца рэзультатам даўгавечнай няволі нашага сялянства, лічым аднак вялікай памылкай перакананьне пана Вога, што Грамада патрапіла разбудзіць у сялянскіх масах веру ў сілы народныя і зварушыць іх да творчай працы.

Наадварот здаецца нам, што праца Грамады якраз паглыбіла ў сялянскіх гушчах гэнае бязвер'е ў свае сілы.

Думкі, кіданыя грамадаўцамі ў масы сялянскія, што прыдзе нейкая сіла звонку, быццам даткнуцьцём чароўнае палачкі пераменіць усё яго гаротнае жыцьцё, (як відаць з працэсу Грамады думкі гэтыя кідаліся ня раз) не маглі ўзгадаваць у масах веры ў сілы яе, не маглі пхнуць іх да працы над тварэньнем свае долі яе ўласнымі рукамі...

прахадзімцаў. Але, трэба прызнаць, бальшавікі добра зразумелі адносіны да іх з боку масаў і ўстанавілі ўладу тэрору, уціску, шпікоўства і расстрэлаў бяз судоў.

У Расеі такая сыстэма ўлады можа яшчэ доўга трымацца, бо-ж гэты край заўсёды быў пад уціскам і да яго прывык. Але ведама, супроць бальшавіцкага рэжыму памалу нарастае ў Расеі проціўбальшавіцкі фронт і ён зьмяце іх на доўга з зямлі. Калі гэта наступіць, гадаць трудна, адно можна сказаць з пэўнасьцю, што галоўную ролю адыграе расейскае сялянства і тыя краі, дзе нарастае нацыянальная сьведамасьць, як Украіна, Беларусь, Грузія.

Бальшавікі заўсёды ўмелі голасна крычаць аб тым, што толькі яны бароняць інтарэсаў работнікаў і сялян. Праўда, яны прагналі з фабрык уласьнікаў, але не аддалі іх работнікам, а зачынілі фабрыкі ды выкінулі работнікаў на вуліцу, на голад і безработцьце. Праўда і тое, што камуністыя прагналі з абшараў памешчыкаў і разьдзялілі зямлю сярод сялян, але зараз-жа пачалі адбіраць ад сялян ўвесь хлеб, увесь ураджай, нічога за гэта ня плацячы, або даючы ў абмен казначэйскія расьпіскі дзяржаўнае пазыкі.

Сяляне тады перасталі засяваць сваё поле і вось Расея перажыла страшэнны год голаду, калі згінула каля 10-ці мільёнаў людзей ад галоднае сьмерці. Як ведома, цяпер ізноў бальшавікі „даюць зямлю“, бо выданы імі закон, паводле якога безьзямельныя і малазямельныя сяляне могуць забраць зямлю ад г. зв. „кулакоў“, гэта значыць ад тых, хто абрабляў больш зямлі, хто укладаў болей працы, хто ня быў абібокам і лянюхом. На падставе гэтага закону прыдзе з местаў у вёску безработная маса і забярэ ў сялян зямлю, бо-ж памешчыкаў няма і цяпер зямлю трэба браць ад сялян.

Толькі ўдумайся, чытачу, у гэта і прадстаў, якое палажэньне сялян у Расеі, дзе, як хваляцца бальшавікі, істнуе сялянская ўлада.

Але малапісьменныя сяляне і работнікі тых краёў, дзе культура стаіць нізка, а соцыяльныя працівенствы значныя, як напрыклад у нас, у Заходняй Беларусі, ня могуць часта разгадаць ашуканства бальшавіцкіх агентаў, якія абяцаюць, як у 1917 г. усё, што можна прыдумаць, якія гавораць: „дамо зямлю, дамо працу, ідзеце за намі“. Бо-ж ведама, бальшавікі расхвальваюць жыцьцё ў Расеі, калі тым часам ведама, што яшчэ ніколі так блага ня жылося там работніку і селяніну, як жывець ён цяпер. Толькі што пісаць і гаварыць аб гэтым нельга, бо за такое пісаньне грозіць сьмерць, а сьмерці нармальны чалавек баіцца.

камі і былі звычайнай дэмагогіяй аблічанай на гэны характэрны псыхолёгічны рыс нашага сялянства, які падкрэслівае аўтор.

Апроч таго, таму, хто прыглядаўся бліжэй працы Грамады, ведама, што праца яе была працай нэгацыі, праца бойкоту кожнай праявы сялянскага жыцьця, якая не ўкладалася ў рамкі праграмы і тактыкі кіраўнікоў Грамады; разбудзіць веру ў сілы народныя могуць толькі ясна пастаўленыя масам мэты і рэальныя іх дасягненьні. Якія-ж былі рэальныя дасягненьні Грамады? Абяцаўшы залатыя горы, ці палепшыла яна хоць трошкі эканамічны стан сялянства, ці апраўдала хаця ў часьці надзеі сялянства? Нэ, тысячу разоў не!

Яна толькі скаламуціла жыцьцё вёскі, адарвала сялянства ад штодзеннай творчай працы і не разбудзіла, а з корнем вырвала апошнія расткі веры ў творчую сілу сялянства, там, дзе гэная вера яшчэ жыла.

## Памяці Ігната Буйніцкага.

### 1917 $\frac{19}{IX}$ 1927.

Беларускае грамадаянства, занятае ў 1927 г. палітычнымі сваркамі, прайшло моўчкі міма памяці тых людзей, якія сталі вышэй усякае дэмагогіі, а сваёй працай і дзеяльнасьцю ў сотню разоў зрабілі больш для беларускага народу, чым усе „палітыкі“ апошняга часу.

Адным з гэтых людзей зьяўляецца нябожчык Ігнат Буйніцкі, ад дня сьмерці якога ў верасьні 1927 г. мінула дзесяць гадоў. Усяму беларускаму народу, усім нашым культурным дзеячом павінна быць памятна праца І. Б. Тая праца, якая палажыла моцны фундамант пад адну з найпякнейшых культурных установ беларускіх, якой зьяўляецца тэатр.

Ігнат Буйніцкі — артыст-танцор, самародак, сарганізаваўшы драматычны гурток, хор і балет, пасьля першых выступаў у Вільні, у пачатку 1910 году, пад канец лета таго-ж году, выехаў з Вільні на турнэ па провінцыі. Усюды гэты першы беларускі тэатр меў гарачы прыём. Цэлы рад гарадоў і мястэчак, як напрыклад: Вільня, Менск, Полацак, Слуцак, Несьвіж, Дзісна, Ліда, Ашмяна і шмат іншых, дзякуючы тэатру І. Б., пазналі сапраўднае аблічча беларускага народу; пазналі жыцьцё, звычаі, музыку, песьні гэтага народу. Пазналі асобнасьць адвечнае беларускае культуры. Выступае І. Б. і ў мозгу царскае Расеі — Пецярбурзе, прымаючы ўчасьце ў этнографічным вечары, наладжаным ведамым журналам „Вѣстникъ Знанія“, на якім атрымлівае ганаровую ад'знаку (жэтон). Выступае І. Б. і ў сэрцы Польшчы—Варшаве, у сьценах унівэрсытэту якой мае вялізны пасьпех, паказваючы згуртаванай беларускай і польскай моладзі мастацтвы нашага народу.

Сваім турнэ, якое цягнулася, з перарывам, амаль ня два гады, І. Буйніцкі ўскалыхнуў магучую ідэю нацыянальнага адраджэньня ў тых куткох Беларусі, дзе яшчэ мала ведалі аб беларускім адраджэнскім руху. Гэтая ідэя абагрэла, разварушыла застыўшыя сэрцы і скінула з вачэй заслону не аднэй тысячы беларусаў. Ад часу выступаў тэатру І. Б. пачаўся рост беларускага руху. Беларуская адраджэнская хваля, меўшая сваім пунктам выплыву Вільню, шырока разьліваецца па ўсёй Беларусі. Адгукнуліся нават беларусы-пасяленцы ў Сібіры, пішучы ў „Нашую Ніву“ корэспондэнцыі аб беларускіх вечарынах. Гэтак заснаваў І. Б. беларускі тэатр, заснаваў тую установу, якая ў жыцьці кожнага народу, адыгрывае найважнейшую ролю.

У апошнія гады перад эўропэйскай вайной, маючы за 50 гадоў, І. Б., вывеўшы беларускае тэатральнае мастацтва на правільны шлях, адыйшоў ад свае артыстычнае працы і заняўся пра-

---

Камуністыя ня дбаюць аб тым, каб лепш, спакайней жыў чалавек, каб за сваю працу меў добрую заплату, каб мог спакойна чакаць старасьці і мець абясьпечаньне на старасьць. Камуністыя дбаюць аб тое, каб усюды рабіць рэвалюцыю. Яны ў нас, беларусаў, нішчаць моладзь, жыцьцё сямействаў і здароўе людзей, бо ўцягваюць у свае нелегальныя арганізацыі сялян і пасьля пасылаюць іх у турмы, даносячы аб тых, хто працуе ў гэтых нелегальных арганізацыях, або правакуючы сялян на забароненыя выступленьні, за якія грозіць турма. Бальшавікі яшчэ за цароў працавалі ў расейскай дэфэнзыве, былі шпікамі жандармэрыі і паліцыі і выдавалі работнікаў і сялян у рукі паліцыі, на катаваньне і катаргу.

Ведама, што супрацоўнік самога Леніна і б. пасол да Думы Раман Маліноўскі 5 гадоў служыў шпіком і Ленін аб гэтым ведаў. Тое самае робяць і цяпер бальшавіцкія агенты ў нас на беларускіх землях. Яны заведама, па пляну нейкаму ўцягваюць сялян і работнікаў у свае ячэйкі і зараз даюць знаць уладзе аб гэтым, хто прымае ўдзел у гэтай рабоце, за якую грозіць суд і турма. А дзеля чаго гэта робіцца? Бо бальшавікі мусяць мець довады таго, што ў Польшчы судзяць беларусаў, саджаюць іх у турмы, каб заграніцай пісаць аб гэтым, вінавацячы Польшч у благіх адносінах да беларусаў, да сялян і работнікаў. У гэты спосаб яны хочуць апраўдаць сябе, што ня толькі ў іх блага, але таксама блага і ў другіх дзяржавах.

Беларускія сяляне павінны задумацца над гэтым і гнаць проч ад сябе усіх агітатараў, якія захвальваюць бальшавікоў і бальшавіцкія парадкі. Хай гэтыя агітатары едуць у Расею і там вядуць сваю работу. Хай кожны ведае, што гэтыя агітатары вашыя найвялікшыя ворагі, бо нібы гавораць аб тым, каб папраўіць долю працоўных, але яны толькі думаюць аб згубе гэтых працоўных, аб тым, каб аддаць іх на зьдзек у турмы і суды. Усе гэтыя агітатары правакуюць толькі сялян, толькі нішчаць іх жыцьцё і лёс.

Дык сяляне, калі толькі спаткаеце таго, хто будзе захвальваць камуністычныя парадкі і намаўляць вас да нелегальных арганізацыяў, як камуністычная партыя Заходняй Беларусі, ганеце іх вон, бо гэта — альбо платныя агенты бальшавікоў, якія аб усім, што чуюць ад вас даносяць зараз у паліцыю, альбо атуманеныя імі людзі, якія дзеля цемнаты свае ня ведаюць, што робяць і думаючы, што працуюць на карысьць народу, зьяўляюцца сьляпым аружжам у руках найвялікшых ворагаў народу.

цай эканамічнай. Гэтак у 1913-14 г.г. І. Б. закладаё ў мяст. Прыгорках, Дзісьненскага пав., першае беларускае крэдытнае таварыства. На гэтай ніве І. Б. прынёс так-жа ня мала карысьці, памагаючы вёсцы танным крэдытам, выпісваньнем насеньня, машын і іншым. Не адзін селянін, дзякуючы І. Б., стаў на ногі і выкіраваўся на сапраўднага гаспадара. Займаўся І. Б. каморніцтвам, гадоўляй гатунковых надворных птушак, трусоў, і ў гэтых галінах быў ведамы шырокім колам грамадзянства.

Радзіўся І. Б. у маёнтку Празароках, адукацыю атрымаў у Рыскай землямернай школе. Займаўся гаспадарствам у сваім фальварку Палівачох, служачы прыкладам гаспадара на ўсю ваколіцу. У 1916 г. уступіў у Усерасейскі Земскі Саюз, а 19 верасьня 1917 году памёр неспадзеўна, на фронце каля Маладэчна. Пахаваны на магільніку каля паўстанку Палівачы (чугунк. лініі Маладэчна — Загаце). Невялікі магільны капец, звычайны дзеравянны крыж, ды дзьве высокія разложыстыя сосны сьведчаць аб месцы адпачынку вялікага дзеяча-мастака.

І. Буйніцкі — гэта другі Ф. Багушэвіч. Выходзячы з старыннае беларускае шляхты І. Б. душой быў селянінам. Дзьверы яго хаты былі адчынены заўсёды і для ўсіх. Ніводін чалавек ня выйшаў ад І. Б. не здаволены, хоць-бы знаходзіўся ў найвялікшай бядзе. Не адзін з нашых культурных дзеячоў, знаходзіў у І. Б. прытулак, адпачынак і падтрыманьне ў цяжкой працы над усьведамленьнем беларускага народу.

І. Буйніцкі адпачыў, даканаўшы вялікае справы, а яго супрацоўнікі-артыстыя зоркамі разьляцеліся па ўсёй Беларусі, пашыраючы народнае мастацтва і даводзячы яго да належнае вышыні. Адна з найлепшых зорак тэатру І. Б. — Алёна Буйніцкая пражывае ў нашай Зах. Беларусі ў м. Празароках.

„Наша Ніва“ за 1910 год, апісваючы выступленьне тэатру І. Буйніцкага, заканчываець: „а калісь, калі прабудзіцца сьвядомасьць ува ўсім беларускім народзе, памяць Ігната Буйніцкага будзе сьвятой для ўсіх“.

Сьвядомасьць наша прабуджана і нашыя культурныя ўстановы, нашыя дзеячы і працаўнікі павінны не прайсьці моўчкі міма магілы аднаго з найлепшых сыноў Беларусі і напэўна, хаця з праваломай, прыпомняць беларускаму народу імя сьветача беларускае культуры і адраджэньня.

*Шчыры.*

---

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як можна сьцьвярдзіць права ўласнасьці цераз пастанову вясковага сходу.

У № 92 афіцыяльнага зборніку выдаваных у Польшчы законаў (Dziennik Ustaw) з 25 кастрычніка 1927 г. абвешчана распараджэньне Прэзыдэнта Рэспублікі з 14 кастрычніка 1927 г., якое мае вялікую вагу для ўсіх сялян Заходняй Беларусі. Распараджэньне гэтае ўстанаўляе парадак сьцьвярджаньня права ўласнасьці на сялянскія грунты, якія дасталіся ўласьніку не ў парадку куплі, а з надзелу. Ведама, што большасьць сялянскай зямлі зьяўляецца зямлёю надзельнаю. На гэтую зямлю мала хто мае пляны і дакуманты, якія-б сьцьвярджалі ўласнасьць і маглі служыць доказам уласнасьці для таго, хто карыстаецца з зямлі. Тымчасам вельмі часта такі дакумант трэба мець, каб магчы сьцьвярдзіць уласнасьць на зямлю перад судом, перад натарыюсам пры прадажы ці куплі зямлі, або пры просьбе аб пазыцы, калі ў заставу даецца гэтая зямля. Паводле ўспомненага распараджэньня Празыдэнта, якое абавязвае ў ваяводзтвах — віленскім, навагрудзкім, палескім, валынскім і ў беларускіх паветах беластоцкага, кожны селянін, які мае надзельную зямлю бяз пісьменнага доказу таго, што ён зьяўляецца ўласьнікам яе па праву, можа атрымаць такі доказ гэтага свайго права на зямлю. А зрабіць гэта можна цераз пастанову вясковага сходу, які сьцьвердзіць у ёй, што азначаная зямля зьяўляецца ўласнасьцяй данага селяніна.

Згодна з гэтым распараджэньнем кожны фактычны карыстальнік (той, хто ўладае зямлёю) надзельнаю зямлёю, каб атрымаць доказ уласнасьці на яе, павінен прадставіць у воласьць пісьменную просьбу, або вусна, на словах прасіць аб запісаньні ў пратакол яго просьбы аб тым, што ён просіць склікаць сход тае вёскі, ў граніцах якое знаходзіцца яго зямля, дзеля сьцьвярджэньня, што гэтая зямля зьяўляецца ягонаю ўласнасьцю. Валасны войт павінен у працягу 30 дзён ад дня падачы аб гэтым просьбы склікаць вясковы сход. Аб дні сходу падаецца публічна да ведама селян вёскі цераз вывешаную на доме солтыса аб гэтым абвестку не пазьней, як за 7 дзён да сходу.

На гэтым сходзе маюць права быць прысутнымі ўсе сяляне, якія маюць у граніцах вёскі надзельную зямлю, атрыманую на падставе таго надзельнага акту, які абымае і той грунт, якога права ўласнасьці мае быць сьцьверджана. Гэта значыць, што калі-б у вёсцы жыў селянін, які меў толькі купленую ў суседнім двары зямлю і меў купчую, тады ён у сходзе ўдзелу не бярэ. Сход вядзе солтыс, які мае права голасу толькі тады, калі сам зьяўляецца ўласьнікам надзельнае зямлі, на падставе таго-ж акту надзеленьня.

Той, хто просіць склікаць сход і сьцьвярдзіць яго права ўласнасьці, ня можа галасаваць. Сход разглядае справу прызнаньня за селянінам права ўласнасьці і калі будзе згода большасьці на такое прызнаньне, тады выносіцца пісьменная пастанова, ў якой абазначаецца: а) асоба ўласьніка або ўласьнікаў з паказаньнем часьці кожнага з іх, б) падрабязнае і яснае азначэньне агульнага абшару грунту, колькасьці асобных кускоў (палосак), з якога ён складаецца, граніцаў гэтых кускоў і гатунку іх, як напр. пляцы пад забудаваньнямі з абазначэньнем усіх будынкаў, поле, луг, лес, пасьбішча і г. д., в) выясьненьне, ў які спосаб грунт перайшоў да ўласьніка. Плян у выпадку, калі граніцы можна аба-

значыць, не вымагаецца. Толькі патрэбны ён тады, калі граніцы спорныя і іх нельга выразна апісаць. Вынесеная сходам пастанова запісваецца да кнігі, ў якую ўпісваюцца ўсе пастановы вясковых сходаў. Копія яе вывешваецца на 14 дзён ад дня пастановы на доме солтыса і ў валасьці. Робіцца гэта дзеля таго, каб тыя, хто лічыць сябе скрыўджаным у сваём праве, маглі ўнясьці протэст да войта. Пасьля 30 дзён ад дня вынясеньня пастановы, да вёскі прыяжджае войт або высланы войтам сябра гміннай рады ці канцэлярыі і ў прысутнасьці двух сьведкаў спраўджвае на месцы пастанову, сьпісвае аб гэтым пратакол і гэты пратакол з сваімі ўвагамі і пратэстамі (калі яны паступілі ў час) прадстаўляе разам з пастановай сходу мясцоваму, па падсуднасьці міравому судзьдзі (sędziemu pokoju) на сьцьвярджэньне.

Міравы суд прыступае да разгляду пастановы не хутчэй, як пасьля 30 дзён ад дня падачы яе ў суд. Калі няма протэстаў проціў пастановы суд яе зацьвярджае бяз вызываньня старон, калі-ж суд прызнае нязгоднасьць пастановы з правам, адказвае даць зацьвярджэньне, але ў гэтым выпадку мусіць вызваць і выслухаць выясьненьняў старонаў.

Суд можа дзеля разгляду і выясьненьня справы рабіць сьледзтва, вызваць заінтэрасаваных, але або зацьвярджае пастанову, або адкідае яе без зацьвярджэньня. Рашэньні Міравога Суду могуць быць заскаржваны ў Акружны Суд у працягу 30 дзён ад дня атрыманьня паведамленьня ад Суда аб яго рашэньні. Акружны Суд заўсёды на разгляд скаргі вызывае староны. Процiў рашэньня Акружнога Суда можна выступаць у працягу 10 дзён ад дня атрыманьня гэтага рашэньня ў Найвышэйшы Суд у парадку касацыі.

Здараецца й так, што сход адмаўляе сьцьвярдзіць уласнасьць або дзеля адсутнасьці большасьці сялян сход ня можа адбыцца. У гэтых выпадках солтыс паведамляе ў працягу 7 дзён аб гэтым войта. Войт тады ізноў у працягу 7-мёх дзён мусіць зрабіць расьсьледаваньне і яго вынік перасылае ў Міравы Суд. Суд у працягу 30 дзён мае дапрасіць сьведкаў, заінтэрасаваных і выдае сваё рашэньне.

У гэты спосаб зробленыя пастановы пасьля зацьвярджэньня іх судом зьяўляюцца праўным доказам уласнасьці на зямлю так, як купчая крэпасьць. Усе пастановы гэтыя, просьбы ў суд і пасьведчаньні ў гэтай справе не аплачваюцца гэрбавым зборам. Процiў пастановы сельскага сходу аб прызнаньні ўласнасьці на зямлю можна выступаць у Суд у парадку позваў, калі такія пастановы крыўдзяць права асоб трэціх.

## Карова — гэта скарб і банк селяніна.

Ня ўсе расьліны аднолькова карысныя ў гаспадарцы. Пшаніца больш дае карысьці, чымся жыта, ці авёс. Ня ўсе яда нашая аднолькова ўзмацоўвае сілы чалавека. Гэтак, малако, яйкі, масла дае больш пажывеньня і лепш узмацняе сілы нашыя, чымся хлеб, квас, гуркі. Тое самае з жывеньнем жывёлы. Яна, як чалавек, таксама ад аднаго корму папраўляецца, жырэе, другі-ж не пазваляе жывёле памёрці, а сілаў жывёлы не павялічвае. Асабліва ясна гэта можна бачыць на прыкладзе з кармленьнем кароў, якія, залежна ад корму, павялічваюць колькасьць выдойванага малака, як толькі замест худой, благой пашы перайдзём на пашу пажыўную. У нас дасюль сяляне ня ўсюды яшчэ зразумелі тое, што карова— найдаражэйшы скарб у гаспадарцы і што яе трэба даглядаць старанна, карміць разумна і такою пашаю, якая пазволіць карове быць банкам і скарбам у гаспадарцы, бо пры добрым даглядзе і корме карова дасьць столькі малака, што яно аплоціць увесь расход на корм і пакіне для гаспадара добры грош даходу.

Найлепшай пашай для кароў, пашай, якая гоніць з каровы малако, зьяўляюцца калачы і атрубі. Кормячы імі свае каровы, кожны селянін пазнае, што сапраўды карова гэта — банк, які дае яму вялікі штодзенны процант і пакрывае ўсе яго расходы на пашу.

Карміць карову калачамі і атрубямі трэба толькі разумна, гэтая паша павінна давацца ў такой меры, каб малака прыбывала, дзеля чаго трэба запісваць, колькі малака дае карова праз тыдзень пры пэўнай вазе і колькасьці зьяданых калачоў і атрубёў. Малако-ж, ведама, не павінна зьядацца ў сям'і, а найлепш павінна аддавацца ў малачарню, дзе за кожную кварту яго добра заплацяць, бо гэтае малако будзе мець многа сьмятаны, ня будзе вадзяністае і „рэдкае".

Аб карысьці кармленьня каровы атрубямі і калачамі даведаліся гаспадары з практыкі. Пры гаспадарчых школах, у якіх неабходна трэба вучыцца сялянскім дзецям, робяць такія практыкаваньні, які корм для кароў і гаспадаркі найвыгаднейшы і ўжо па гэтых досьледах судзяць аб карысьці з тае ці іншае пашы.

Вось што чытаем у часопісі „Kłosy": „Сельска-гаспадарчая школа ў Бродніцы рабіла рад досьледаў аб кармленьні кароў. Адзін з іх быў зроблены ў селяніна Камінскага, уласьніка 19 дзесяцін зямлі, з якіх 4 дзесяціны лугу і 15 дзесяцін орнае зямлі. Гэтая зямля абсяваецца так: бульба займае $1^3/_4$ дзесяціны, буракі кармавыя для кароў, такая самая бручка $^3/_4$ дзесяціны, ячмень 2 дзесяціны, пшаніца $^1/_2$ дзесяціны, канюшына аднагодняя $2^1/_2$ дзесяціны, канюшына двугодняя $2^1/_2$ дзесяціны, жыта 5 дзесяцін. Гаспадарка мае: коняй 3, кароў 9, сьвіней (на кармленьне і кормных) 12. Малако адсылаецца ў коопэратыўную малачарню.

Для паказнога кармленьня былі ўзяты 2 каровы, назавём іх „Белка" і „Рабая".

| | Белка | Рабая |
|---|---|---|
| Век кароў . . . . . | 9 гадоў | 7 гадоў |
| Вага кароў . . . . | 33 пуды | 30 пудоў |
| Калі ацялілася . . . | 9.XI.1927 г. | 19.XI.27 г. |
| Пробны ўдой 14.I.1918 | 11 літраў | $11^1/_2$ літраў |
| % жыру „ „ | 2,6% | 2,9% |

Дасюль каровы карміліся так: рана, пасьля дойкі, даставалі сечку, пасьля 20 фунт. бручкі, пасьля сена, канюшыну і паеньне. У поўдзень, па дойцы, даставалі сена і ваду. Увечары, пасьля дойкі, 20 фун. бручкі, сена і крыху саломы.

Досьледы над кармленьнем кароў цягнуліся ад 16.I.1928 г. да 5.II.1928 г., значыць, разумнае кармленьне іх было 3 тыдні, якраз гэтулькі часу патрэбна для раздаеньня каровы. Штотыдня зьмянялася колькасьць пашы ў меру ўзросту колькасьці малака. Абедзьве каровы даставалі ад-

нальковую пашу: рана, пасьля ўдою, 2½ клгр. (5¾ ф.) калачу, зьмяшанага з 1½ клг. пшанічных отрубяў, пасьля 30 фунтаў рэзанае бручкі, пасьля 5 фун. канюшыны і крыху сена. Пасьля таго, як карова зьела гэты корм, яе паілі. У поўдзень, пасьля дойкі, давалася столькі пашы, як і раніцаю. Увечары, пасьля дойкі, давалася толькі сена. 5 лютага ўдой быў зважаны і абсьледаваны жыр малака.

| | Белка | | Рабая | |
|---|---|---|---|---|
| | Уд. пр. | % жыр. | Уд. пр. | % жыр. |
| 5. II. 1928 г. . . . . | 18½ л. | 2,9% | 17½ л. | 3,3% |
| 14. I. „ „ . . . . | 11 л. | 2,6% | 11½ л. | 2,9% |
| Прырост малака і жыру | 7½ л. | 0,3% | 6 л. | 0,4% |

Відзім, што ў абедзьвюх кароў рацыянальны корм падняў колькасьць малака вельмі значна, бо каля 78% і павялічыўся лік жыроў у малаку.

А цяпер найважнейшае пытаньне, ці аплачваецца такое кармленьне?

100 клг. (6 пуд.) калачу каштуе 52 зл., 1 к. (2½ ф.) каштуе 52 гр., 10 клг. пшонных отрубяў 31 зл., ці за 1 клг.—31 гр., за 1% жыру ў малаку малачарня заплаціла 7,5 грошa.

Перад дасьледаваным кормам давалі больш канюшыны і сена, а меней бручкі, падчас дасьледу павялічылі колькасьць бручкі, але паменшылі сена і канюшыны, што пакрывала адно другое.

У абліčэньні прымем пад ўвагу цану калачу і отрубяў.

| | Белка | Рабая |
|---|---|---|
| | зл. | зл. |
| Вартасьць прыбылага малака . . | 1,63 | 1,48 |
| (Белка = 7,5 л. × 2,9% × 7,5 гр.) | | |
| (Рабая = 6 л. × 3,3% × 7,5 гр.) | | |
| Вартасьць жыру ў рэшце малака | 0,24 | 0,34 |
| (Белка=11 л.×0,3%×7,5 гр.) | | |
| (Рабая=11½ л.×0,2%×7,5 гр.) | | |
| Вартасьць худога малака ад звышкі . . . . . . . . . . . | 0,30 | 0,25 |
| (Белка = 6 л. × 5 гр.) | | |
| (Рабая = 5 л. × 5 гр.) | | |
| Разам вартасьць звышкі малака . | 2,17 | 2,07 |
| Вартасьць пашы . . . . . . . . | 1,76 | 1,76 |
| 2,5 кл. кал.×52 гр.; 1,5 к. отр.×31 гр. | | |
| Чысты дзенны даход . . | 41 гр. | 31 гр. |

Як бачым, з гэтае табліды 2,5 клгр. падсоўнечнікавага калачу і 1,5 клгр. отрубяў, што каштуе 1 зл. 76 гр. далі звышку малака ў аднае каровы на 7½ зл. і 1,3% жыру вартасьці 2 зл. 17 гр. Значыць першая карова дала чыстага даходу 41 гр. у дзень, а другая 31 гр. у дзень.

Такім чынам, за адданыя на добры корм 1,76 гр. гаспадар атрымаў 2 зл. 17 гр. за малако. А цяпер пытаньне, ці знойдзецца хоць адзін такі банк, які-б замест уложаных 1,76 гр. выплаціў на другі дзень 2 зл. 17 гр.? Такога банку няма, бо гэта выносіць 23% штодня. Такім банкам зьяўляецца добрая карова, калі яе разумна і добра гаспадар корміць ды даглядае.

Сяляне, падумайце добра, якое багацьце маеце ў сябе, толькі ўмейце яго добра выкарыстаць! Яшчэ трэба ад'значыць, што пры такім кармленьні каровы папраўляюцца на вазе і жыры, а таксама ад іх будзе лепшы гной. Трэба кожнаму селяніну кінуць апіханьне сваіх кароў саломай і сенам ды перайсьці на добрую пашу. Уложаныя на яе грошы вернуцца з прыбыткам. Каб-жа ведаць, як карміць, трэба купляць сельска-гаспадарчыя кніжкі і выпісваць гаспадарчыя часопісі".

## Зьберажэньне вільгаці ў садзе і паліўка дрэваў.

Дзеля таго, каб зрабіць добрыя варункі росту нашых дрэваў, вельмі важна трымаць грунт у садзе, калі не на ўсім прасторы, дык абавязкава на прыствольных кругох у рыхлым стане. Важна і неабходна гэта таму, што зьлёгшы грунт пазбаўлены магчымасьці ўтрымоўваць у сабе вільгаць, а таксама кепска прапускае і паветра, якое зьяўляецца вельмі патрэбным для дыханьня карэньняў.

Памятаючы аб гэтым, заўсягды патрэбна трымаць грунт каля сьцяблоў, па разьмеру кроны дрэва, рыхлым і пазбаўленым шкоднай расьліннасьці; ў засушлівых-жа месцах неабходна ўсю плошчу трымаць пад чорным папарам. Лішні расход на падтрымоўваньне грунту ў садзе ў рыхлым стане з часам давядзе дрэва да добрага ўраджаю пладоў.

Недахват вільгаці ў грунце мае заўсягды кепскія ўплывы на дрэвы, аслабляе іх рост і спадаўе ранейшае асыпаньне кветак і пладоў. Для зьніштажэньня вось гэткага кепскага ўплыву ў засушлівых месцах, гдзе ў летнія часы вее часта сухавей, бывае мала для дрэваў той вільгаці, запас якой утрымоўваецца рыхлым станам, прыходзіцца рабіць паліўку дрэваў.

Паліўка дрэваў робіцца пры дапамозе падвозкі ў сад бочкай вады і разноскай яе вёдрамі пад кожнае дрэва.

Уносіць ваду на ўвесь прысьцябловы круг няма патрэбнасьці, дзеля таго, што дрэва бярэ вільгаць мелкімі карашкамі (мочкамі), а таму пры паліўцы ня трэба ліць ваду да самага сьцябла, а на некаторай ад яго адлежнасьці; перад самай паліўкай робяць наўкол дрэва, некалькі адступіўшы ад сьцябла, кальцавобразную лунку, куды ўносяць патрэбную колькасьць вады; пасьля таго, калі ўся вада ўсмокчацца грунтам, лунка закрываецца.

Для паліўкі саду трэба карыстацца вадой, некалькі нагрэтай сонцам, напр. ставачнай ці рачной; вада-ж са студняў будзе зімная і дзеля гэтага, перш чым яе ўжываць для паліўкі, трэба даць ёй сагрэцца, накачаўшы ў якую-колечы яму ці іншым спосабам, які будзе выгадней і лепш зрабіць гаспадару.

Калі паліўка саду лічыцца неабходнай працай (ў залежнасьці ад месца саду і кліматычных варункаў), дык робячы яе, патрэбна прытрымоўвацца таго правіла, што лепш дрэвы паліваць адразу як мага больш, але радзей, чым часьцей і па крыху.

### Удабрэньне пладовых дрэваў.

Які-бы ўход мы не рабілі пладавым дрэвам, як-бы мы ня рупіліся вясьці барацьбу з роз-

нымі шкоднікамі, але, калі ў грунце ня будзе хапаць неабходнай ежы, дрэвы нашы затрымоўваюцца ў росьце, зьмяншаецца іх пладанашэньне, а таксама атрыманыя плады становяцца дробнымі і нясмачнымі. І вось, калі гэта будзе заўважана ў нашым садзе, ў такіх выпадках прыходзіцца ўносіць у грунт патрэбныя для ежы нашага дрэва рэчы ці, як кажуць, прычыняцца да яго удабрэньня.

З неабходных кармільных рэчаў, у якіх нуждаюцца пладовыя дрэвы, і якіх па большай частцы не хапае ў грунце, будуць наступныя — азот, фосфарная кіслата і калій. Гэтыя вось неабходныя рэчы і ўносяцца садаводамі ў відзе розных удабрыцельных тукаў. Поўнымі удабрыцельнымі тукамі будуць лічыцца тыя, якія садзержаць у сабе вышменаваныя пітацельныя рэчы, напр. гной, начное золата і птушыны памёт, але ёсьць і гэткія тукі, якімі удабраючы, мы ўносім толькі адно, ці два пітацельныя вешчаствы і гэткія ўжо будуць называцца аднастароньнімі, як напр. азотныя, фосфарнакіслыя і калійныя.

Кожны тук пры удабрэньні садавога грунту мае свой ўплыў на садовае дрэва; тукі азотныя ўплываюць на ствараньне лістоў і павялічэньне дравясіны, а калійныя і фосфарнакіслыя прычыняюцца, галоўным чынам, да ствараньня кветачных почак і пладоў. Акрамя гэтага калій зьяўляе вялікі ўплыў на стойкасьць пладавых дрэваў супроць марозу і розных хваробаў.

І вось вясной, калі ідзе самы разьвітак лістоў, гэтых неабходных органаў расьліны і пабегаў, а таксама і павялічэньне дравясіны, з вялікай карысьцяй патрэбна ўносіць азотныя тукі, (салетру); летам і ў канцы яго, калі на пладовых дрэвах пачынаецца тварэньне кветачных і пладовых почак, трэба карыстацца калійнымі і фосфорнакіслымі тукамі.

Удабрыцельныя тукі ўносяцца ў цьвёрдай ці жыдкай постаці. Калі тукі ўносяцца ў цьвёрдай постаці, дык яны ці закопваюцца, ці рассыпаюцца па паверхні прысьцябловых кругоў, і пітацельныя рэчы, якія знаходзяцца ў іх, раствараюцца пры помачы атмасфэрных асадкаў, ці паліўной вадой і ў гэткай постаці ўсасываюцца мочкамі карэньняў.

Лепшым і карысьнейшым спосабам лічыцца, калі тукі ўносяцца ў жыдкім відзе; у гэткім выпадку пітацельныя рэчы хутчэй могуць скарыстацца і зьявіць сваю дзейнасьць на пладовыя дрэвы.

Яшчэ трэба мець на ўвазе, што розныя пладовыя дрэвы вымагаюць не аднолькавых пітацельных рэчаў; гэтак, азоту найбольш вымагаюць сьлівы і вішні, фосфару (попелу)—яблыны і сьлівы, а каліем найбольш нуждаюцца ігрушы і вішні.

## Гной.

Гной, як удабрэньне ў садзе, магчыма ўжываць сьвежы (саламяны) і разлажыўшыйся, (перапрэлы). Сьвежы гной дзействуе больш паволі і даўжэй, а перапрэлы хутчэй, але карацейшы час. Дзеля гэтага ў маладым садзе лепш угнойваць саламяным гноем, а ў садзе старым і пры гэтым даўно ня удабраным, лепш угнойваць перапрэлым гноем, які хутчэй зьяўляе свой уплыў і дае магчымасьць украпляцца аслабеўшаму бяз ежы дрэву.

Уносіць гной трэба на прысьцябловы круг, адступіўшы ад штамбу на $1/2$—1 арш. і займаючы на 1—2 аршынаў паласу, якая выходзе за крону дрэва; калі гной добра будзе разложаны на паверхні, тады гэта месца перакопваюць, каб яго закапаць у грунт. Наагул трэба сьпяшыць з закопкай гною пасьля яго раскідваньня навакол сьцябла. Рабіць гэта неабходна, дзеля таго, што даўгое ляжаньне гною не закопаным памагае губляць некаторыя патрэбныя для дрэва пітацельныя рэчы (напр. азот). Што тычыцца глыбіні, на якую патрэбна закопваць гной, дык лепшай будзе 3—4 вяршкі; закопваючы на гэткую глыбіню, мы можам зрабіць усё неабходнае, што вымагаецца для разлажэньня гною (вільгаць, цяпло і паветра), пасьля чаго пітацельныя рэчы хутчэй могуць ісьці на карысьць дрэва.

Што тычыцца да колькасьці гною, якая патрэбна для удабрэньня саду, дык яна залежыць ад шмат прычынаў, напр. ад якасьці самага грунту, веку садовых дрэваў і г. д. Наагул лічыцца задаваляючым, калі палажыць ад 5 — 10 пудоў гною пад кожнае пладовае дрэва маладога веку з сярэднім па якасьці грунтам; калі дрэвы старыя, дык гэту колькасьць павялічваюць да 15—20 пудоў (прыблізна воз).

Пры ўжываньні гною ў садзе, вельмі важна ведаць і час, калі яго ўносіць у грунт.

Час гэты залежыць, галоўным чынам, ад таго, чаго садавод жадае пры ўжываньні ў грунт. Калі трэба ўсіліць разьвітак лістоў і галінаў — ужываць лепш вясной; калі-ж неабходна зьявіць уплыў на разьвітак пладоў—уносіць гной патрэбна пасьля таго, як скончыцца цьвіценьне дрэваў, а калі пажадана зьявіць уплыў на ствараньне пладавых почак для наступнага ўраджаю, самым лепшым часам дзеля ўдабрэньня будзе пачатак лета.

**Птушыны памёт.** Птушыны памёт садзержыць у сабе шмат азоту і фосфару, дзеля чаго, яго вельмі карысна ўжываць у пладовым садзе ў тых выпадках, калі трэба ўсіліць рост і пладанашэньне дрэваў.

Ужываць памёт лепш у жыдкім стане, хоць зразумела магчыма і ў цьвёрдым; калі прыходзіцца ўносіць памёт у цьвёрдым відзе, дык пад кожнае дрэва даволі будзе 10—20 ф., у залежнасьці ад веку дрэва і закопваць у грунт на 2—3 вяршкі. Лепшым часам для ўдабрэньня памётам у цьвёрдым відзе лічыцца вясна, перад вясеньняй перакопкай грунту пад дрэвамі.

Для прыгатаўленьня жыдкага ўдабрэньня з памёту бярэцца звычайна 2—3 ф. яго на 5 вёдраў вады, раствору даюць пастаяць дзён 5 — 6, а пасьля палiваюць ім дрэвы ў колькасьці 5—10 вед. на кожнае; лепшым часам для ўжываньня гэткага жыдкага ўдабрэньня ў садзе лічыцца першая палова лета.

**Аднастароньнія тукі.** Пры ўжываньні аднастароньніх тукаў у пладовым садзе магчыма зьявіць вельмі вялікі ўплыў на ўраджай пладоў, бо яны садзержаць у сабе адно якое-колечы пітацельнае вешчаство, дзеля чаго, садавод пры іх ужываньні можа даставіць дрэву тую ці іншую рэч, якой вымагае наша дрэва. З гэтых тукаў нам па большай частцы зьяўляюцца неабходнымі: салетра, супэрфасфат і попел, гэтыя рэчы як раз зьяўляюцца ў нашых краёх найбольш папулярнымі і большасьці земляробаў прыходзілася іх ужываць, як добрыя сродкі дзеля пладароднасьці нашых земляў.

**Чылійская салетра.** Салетра адносіцца да азоцістых тукаў.

У тых выпадках, дзе дрэвы будуць нуждацца ў азоце, там ужываньне салетры зьяўляецца неабходным, і яна будзе памагаць хутчэйшаму разьвіцьцю лістоў і прыросту дравясіны. Салетра ўносіцца два разы — вясной і ў пачатку лета, ўдабраюць ёю ці ў цьвёрдым стане (як яна ёсьць), ці ў жыдкім. Пры ўжываньні салетры ў цьвёрдым стане, рассыпаюць патрэбную колькасьць па прысьцябловаму кругу і перамешваюць з грунтам. Што тычыцца колькасьці салетры, якую патрэбна ўносіць, дык задаваляючым лічыцца — 3/4 фун. на кв. сажань.

Пры ўжываньні салетры ў жыдкім стане, бяруць 2—3 лоты яе на вядро вады і паліваюць гэткай вадой дрэвы.

**Супэрфасфат.** Гэты удабрыцельны тук адносіцца да фосфарна-кіслых. Час унясеньня (ўжываньня супэрфасфату залежыць, галоўным чынам, ад мэты, якая зьяўляецца пры ўдабрэньні садовага грунту; яго ўносяць вясной і летам (як скончыцца цьвіценьне), але найлепшым часам лічыцца восень, пасьля таго, як ападзе лісьцьцё.

Супэрфасфат уносіцца ў колькасьці да 1/2 ф. на кв. сажань. Рассыпаецца ён раўнамерна па тых мясцох прысьцябловага кругу, дзе найбольш маладых каранёў (пад канцамі галінак кроны), гдзе закопваюць на глыбіню 5 — 7 вяршкоў.

**Попел.** Попел лічыцца, галоўным чынам, калійным тукам; у садзе ён можа ўжывацца з вялікай карысьцяй, калі ў садовым грунце не хапае калія, для ўкрапленьня дравясіны пладовага дрэва. Уносіць попел магчыма як вясной, гэтак і ўвосені, ў колькасьці 10—15 фунтаў пад кожнае дрэва; пасьля раўнамернага распрадзяленьня попелу па прысьцябловаму кругу, ў мясцох, дзе знаходзяцца мягкія карашкі (патрэбна некалькі адступіць ад сьцябла) грунт перакопваюць, каб удабрэньне закапаць на некаторую глыбіню. Попел таксама магчыма зьмешваць з гноем і ўдабраць грунт.

Яшчэ можна таксама дзеля ўдабрэньня ўжываць вапну, ў якой найбольш нуждаюцца костачкавыя дрэвы (вішні), а з другіх—яблыны. Вопытныя садаводы кажуць, што на грунтах, дзе мала вапны, там костачкавыя дрэвы ці зусім ня прыносяць карысьці, ці не дачакаўшы да поўнай сьпеласьці яны (плады) абвальваюцца.

Лепшай вапнай, карыснай для ўдабрэньня ў садзе, будзе гашаная ў мелкім стане; ўжываецца яна вясной ў колькасьці 3—4 ф. на кв. сажань, і пасьля раўнамернай рассыпкі закопваецца ў грунт на глыбіню ад 4—5 вяршкоў. *S.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Хваробы пчолак.

Гісторыя хваробаў у пчолак выводзіцца ад так даўна, як аддаўна наагул жывуць і размнажаюцца пчолкі на зямлі. У тым толькі розьніца, што пчолкі менш маюць гэтых хваробаў, як людзі, альбо якія іншыя жывёліны на зямлі. З дасюлешняй практыкі пчалярскай аказалася, што ў пчолак ёсьць дзьве найгалаўнейшыя і найстрашнейшыя хваробы, якія, раз уварваўшыся да пчолак, могуць выклікаць у іх няхібную сьмерць і згубу цэлага вульля; хваробамі гэтымі ёсьць: *гнілец* і *ляксаўка*.

Першая з іх — *гнілец* — самая страшная і самая згубная для пчолак хвароба, гэта быццам іхнія сухоты, ад якіх часта, вельмі часта, няма зусім ратунку. Другая хвароба *ляксаўка*, гэта ўжо менш небясьпечная, як гнілец, у тым разумеецца сэнсе, што ад яе скарэй і лягчэй вылячыць пчолак, у той час, як ад гнільцу часта няма іншага ратунку, як толькі зьніштожыць тую сям'ю, дзе ён завёўся, а самы вулей паддаць надта стараннай дэзынфэкцыі.

Дзеля таго-ж, што гэтыя дзьве найгалаўнейшыя і найстрашнейшыя хваробы, найбольш здараюцца на вясну, я і хацеў-бы тут, не адкладаючы часу (бо вясна ўжо на носе), даць нашым пчаляром найпадстаўнейшыя праявы гэтых хваробаў і спосабы і рады, як з імі трэба змагацца, і чым трэба лячыць пчолак, каб збавіцца ад гэтых хвароб.

*Гнілец* — гэта самая, як я ўжо казаў, страшная хвароба, самая заразьлівая з усіх, з якімі толькі прыходзіцца ходацца пчаляру. Яна да таго заразьлівая і так хутка распаўсюджваецца, што ў адно лета, калі ня прыняць проці яго належных стараньняў, ёю можа заразіцца ня толькі тая паляна, дзе яна зьявілася, але і ўсе акалічныя ў поблізу пасекі. Змаганьне, вывядзеньне і першыя захады супроць гтае хваробы, вымагаюць ад пчаляра шмат настойчывасьці і шмат вялікае ўвагі.

Досьледы некаторых вучоных пчаляроў, а ласьне *Гільбэрта* ў 1875 годзе, паказалі, што на гнілец хварэець ня толькі самая чарва, (якая ад гэтае хваробы гніець, ад таго і хвароба гэтая празываецца *гнільцом*) але хварэюць на яго і дарослыя пчолкі, уключаючы сюды часам і матку.

Усім ведама, што заразьлівыя хваробы распаўсюджваюцца цераз маленечкія, для вока нявідочныя, жывёлінкі, г. зв. бактэрыі альбо бацылі. Вось-жа ўвага некаторых вучоных пчаляроў-дактароў, праз доўгі час, была зьвернута іменна на тое, каб выкрыць бацылю гэтай хваробы, з якою цераз застасаваньне адпаведных, для яе забойчых, атрутаў, можна было ходацца. Пасьля доўгіх і трудных навуковых досьледаў, прафэсару *Когну* ў 1874 г. ўдалося выкрыць гэтую бацылю гнільцу, якую ён празваў: *Bacillus alveolaris*, іначай чарачная бацыля. Другі вучоны *Чушаір* у 1883 годзе празваў гэтую бацылю: *Bacillus alvei*, г. зн. пчаліная бацыля.

Праявы і выгляд гнільцу гэтакі. Чарачкі запячатаванае дзеткі прымаюць зубчаты выгляд, у пакрыўках месцамі знаходзяцца дзірачкі, а ў некаторых іх нямашака. Унутрох чарачкі заместа беленькага, здаровага чарвячка, знайходзіцца гнілая ягоная матэрыя, кавовага колеру, якая маець надта сьмярдзючы пах, які *добрым носам* можна ўжо пачуць за некалькі дзецыметраў ад вульля. Гэтая цягучая гнілая маса будзе ў чарачцы толькі ў той час, калі чарвячок ужо згніў да рэшты. Калі-ж ён толькі што заразіўся і захварэў, то ён, пакуль што, маець яшчэ сваю сапраўдную форму, толькі колер яго зьменіцца з белага на карычневы. У вульлі, заражаным гэтаю хваробаю, пчолкі звычайна выміраюць; дзеткі разумеецца больш ня выводзяць. Калі вулей пачынаець слабець, чужыя пчолкі пачынаюць яго рабаваць і тым самым заражаць сябе, а пасьля

і ўсю тую сям'ю, адкуль яны прыляцелі,— гэтаю хваробаю.

Прычыны гнільцу, ад якіх заводзіцца яго-ная бацыля, яшчэ і дагэтуль акуратна не дась-ледаваны — ёсьць іх, як трэба прыпушчаць, надта шмат. Наагул-жа найчасьцей прычынаю гэтае хваробы ёсьць слабасьць вульля, гэта зна-ча сям'і, благі корм і прастуда чарвы; надта гэ-так сама памагаюць пашырэньню гнільцу і ста-рая ўжо, пакрытая плесьняю вуза, благая вэнты-ляцыя сьвежага паветра і сырасьць. Наагул, як відаць з вышэйсказанага, прычынаў для разьвіць-ця гнільцу ёсьць надта шмат; дзеля гэтага, каб папярэдзіць гэтую хваробу, на гэтыя прычыны яе паўставаньня трэба мець самае руплівае во-ка, самую вялікую ўвагу—каб у час папярэдзіць і не дапусьціць гэтае эпідэміі ў вулей.

Калі-ж ужо гнілец уварваўся ў вулей, то трэ-ба пастарацца, каб яго зьніштожыць у самым за-родку.

*Саліцылавая кіслата, фэноль* і камфора ёсьць найлепшым і найболей радыкальным лякарствам, якое зьяўляецца забойчым для гнільцовых ба-цыляў. Калі ў час зрабіць стараньні, то гэтую хваробу надта скора гэтым лякарствам можна зьніштожыць; калі-ж хвароба дайшла ўжо да астатняе ступені, калі ўжо зьявілася гніль, то вылячыць яе вельмі трудна.

У пачатку гэтае хваробы чарвячкі ў чарач-ках ляжаць *гарызантальна* і маюць жаўтаваты, пераходзячы ў карычневы, адценак, тады, як у здаровым стане яны ляжаць сагнутыя ў кола на дне чарачкі і маюць жамчужна-белы колер.

Калі бацылі гнільцу зьядуць усю гнілую ма-тэрыю ад чарвячкоў і ім болей няма чым карміц-ца, няма з чаго жыць, дык тады яны абяртаюц-ца ў *споры* і ў такім палажэньні могуць быць надта доўга, аж пакуль ня сустрэнуць ізноў адпаведных для іх разьвіцьця варункаў. Забіць іх у спорх надта трудна, ня зьніштожыўшы ра-зам з імі і пчолак; калі-ж споры абернуцца ізноў у бацылі, тады барацьба з імі ўжо лягчэйшая.

Самы просты і хуткі спосаб барацьбы з гнільцом — гэта *абкурваньне* ўсяго вульля *па-раю саліцылавае кіслаты* па спосабу *Гільбэрта.* Гэтая пара, пранікаючы ўва ўсе часьці вульля, маець здольнасьць забіваць усе зародкі гнільцу. Дзеля гэтае мэты ўжываецца адумысная курылка, удасканаленая *Бэртранам.*

Складаецца гэтая курылка з цыліндра з да-робленаю і прымацованаю да цыліндра на заве-сах пакрыўкаю, якая закончваецца загнутым у бок вылетам, так што маець форму ўсечанага загнутага на бок конусу. Самы насок, альбо вы-лет пакрыўкі павінен мець тонкае, ирадоўжанае рыльца так, каб яго можна было засадзіць ува ўсе шчыліны вульля. На дне цыліндру ставіцца і прымацоўваецца сьпіртавая лямпачка, якая даець полымя, неабходнае для абярненьня саліцылавае кіслаты ў пару.

Самая кіслата знаходзіцца ў адумысьнай па-судзіне з падвойным дном; у ніжні паверх на-ліваецца поснае масла, а на верхняе дно кла-дзецца саліцылавая кіслата; пад ёю масла кіпіць і падагравае кіслату; яна ад гэтага топіцца і абяртаецца ў пару. Цяпер трэба толькі пад-трымліваць сталы агонь лямпачкі, пачаць абкур-ваць вулей. Калі вулей з ад'ёмным дном, дык найляпей яго трошкі падняць і ў шчыліну паміж дном і вульлём, усадзіўшы рыльца нашае ку-рылкі, падкурваць; пры гэтай дзейнасьці трэба падняць трошачкі і стрэшку вульля, каб пара магла свабодна праходзіць цераз вулей. Абкур-ваньне гэтае павінна рабіцца ў пагодны цёплы дзень, — рана альбо ўвечары, калі ўсе пчолы ў зборцы. Тыя часткі вульля, куды не змагла дайсьці пара, трэба старанна вымыць, як і пры-лётную дошчачку, а навакол вульля папырскаць росчынай саліцылавае кіслаты. (Росчына № 1 ро-біцца: саліцылавае кіслаты 1 унцыя, буры 1 ун-цыя, вады $^1/_6$ вядра). Яшчэ ляпей, калі мы пась-ля абкурваньня вульля, рамкі з пчоламі пераня-сём у чысты вулей, а самы вулей заражаны вы-скрабем і старанна змажам тою самаю рошчынаю.

Заражаны вулей трэба абкурваць разоў пяць-шэсьць, цераз кожныя шэсьць дзён. На дру-гі вечар пчолам даецца шклянак са дзьве *сыты,* прыбавіўшы да яе перад гэтым з 30-50 капель рошчыны саліцылавае кіслаты № 2 (робіцца яна: чыстага алькаголю 8 унцыяў, саліцылавае кісла-ты 1 унцыя).

Вулей, заражаны гнільцом, абкурваюць, не адчыняючы яго, дзеля таго, што прыдзецца пакі-нуць для пчол некалькі рамак і прымусіць іх да закладаньня новае вузы і да выводу дзеткі. У дадатку трэба ў вулей уставіць некалькі рамак з здароваю запячатаванаю дзеткаю, у выпадку ўпорлівае хваробы трэба адабраць ад пчолак матку і замяніць яе здароваю. Увесь час, як пчолы хварэюць, трэба іх карміць сытою з пры-мешкаю саліцылавае кіслаты рошчыны № 2. Мёд з заражаных рамак трэба дастаць і пераварыць добра. Дадаўшы да яго саліцылавае кіслаты, можна ім карміць здаровыя пчолкі. Перад тым, як вузу злажыць у запас, трэба яе добра апыр-скаць саліцылаваю кіслатою рошч. № 1 і абку-рыць ёю.

Усе вульлі, дны ў іх, рамкі і пасуду, ужы-ваную на пасецы, трэба абліць *варам* і старанна вычысьціць, а ўсе дзеравянныя прылады абмазаць саліцылаваю кіслатою, рошч. № 1, дзеля таго, каб спыніць далейшае распаўсюджваньне хваробы.

Калі вышэйапісаны спосаб лячэньня ўжыць у час, дык хваробу можна зьніштожыць у зарод-ку; калі-ж хвароба ўжо запушчана і прыняла ўжо яна шырокія небясьпечныя разьмеры, то зьнішто-жыць яе шмат трудней.

*Пчаляр.*

(*Працяг будзе*).

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## Скарбоначны збор на карысьць ахвяраў вайны.

21 сакавіка г. г. Камітэт Помачы ахвярам вайны наладзіў у Вільні публічны скарбоначны збор. Збор даў наступны рэзультат. Усяго збору з трыццацёх дзевяцёх скарбонак на суму: шэсьць-сот пятнаццаць злотых 35 гр. Апрача таго, былі сабраны дробныя чужаземныя манэты.

## Дзьве скаўтоўскія дзявочыя дружыны „Сёстраў вогнішча" пры Віленскай Беларускай Гімназіі.

27.III г. г. адбылася прысяга двох дзявочых скаўтоўскіх дружын пад назовам „Сёстры вог-

нішча". На ўрачыстасьці былі прысутныя прадстаўнік беларускага грамадзянства і польскага скаўтынгу.

---

Выйшаў 2(9) нумар „Студэнскае Думкі" оргапу Беларускага Студэнскага Саюзу. Зьмест нумару багаты і цікаўны.

### Паседжаньне сяброў б. Грамадзянскага Сабраньня

27 сакавіка адбыўся сход сяброў б. Грамадзянскага Сабраньня, склікапы дзеля ліквідацыі астаўшайся маемасьці Сабраньня. Сход пастанавіў маемасьць Грамадзянскага Сабраньня перадаць Беларускаму Дабрадзейнаму Т-ву.

# Апошнія навіны.

---

**Польска-літоўскія перагаворы ў Кэнігсбэргу.** 29 сакавіка г.г. выяжджае ў Кэнігсбэрг на перагаворы з Літвой польская дэлегацыя у наступным складзе. Міністар Заграпічных Справаў — Залескі, Начальнікі Аддзелаў Міністэрства Голувко і Тарноўскі і шэф габінэту міністра заграпічных справаў Шумлякоўскі. Апрача дэлегацыі едзе ў Кэнігсбэрг некалькі галоўных рэдактараў польскіх газэт у Варшаве, як прадстаўнікі польскае прэсы.

**Літва. Склад літоўскай дэлегацыі да перагавораў з Польшчай.** У прысутнасьці Прэзыдэнта рэспублікі Смэтоны адбылося паседжаньне габінэту міністраў, на якім апрацованы інструкцыі для літоўскай дэлегацыі да перагавораў з Польшчай. У склад літоўскае дэлегацыі ўваходзяць: прэм'ер Вальдэмарас, Заўніюс і Сідзікаўскас, літоўскі пасол у Бэрліне, далей Наркайтіс — дырэктар гандлёвага дэпартамэнту, Сабалеўскас — інспэктар чугунак, Родус і Сенкевічус — фінансавыя экспэрты.

**С.С.С.Р. Процібальшавіцкі рух ува Усходняй Беларусі.** У менскім акружным судзе закончыўся разгляд абвінавачаньня 16 асобаў, якіх судзілі за процібальшавіцкую дзейнасьць. Асобы гэтыя на чале з кіраўнікам валаснога камітэту ў в. Грэвянкоўцы арганізавалі паўстаньне проці бальшавіцкае ўлады і нападалі на савецкія ўстановы. Суд прысудзіў Паўлючэнка і ягонага памоцніка на 10 гадоў катаргі, Крука на 8 гадоў, 7 асобаў апраўдаў, а рэшта засуджана на меншыя кары.

**Гішпанія. Паварот Гішпаніі ў Лігу Нацыяў.** Два гады таму назад Гішпанія выйшла з Лігі Нацыяў абражаная тым, што не далі ёй сталага месца ў Радзе Лігі Нацыяў, як вялікай дзяржаве. На апошняй сэсіі Лігі Нацыяў пастаноўлена зьвярнуцца да Гішпаніі з просьбай вярнуцца ў склад Лігі Нацыяў. Гішпанія, падзякаваўшы за пісьмо, заявіла, што дзеля агульнага дабра і дзеля працы над справай агульнага міру, яна вернецца ў склад сяброў Лігі Нацыяў.

**Францыя. Змова італьянскіх анархістых проціў фашыстых.** У Парыж прыехаў італьянскі міністар справядлівасьці Рокко ў зьвязку з забойствам фашыста Саворэльлі. Забойца, ані яго супольнікі дагэтуль ня схоплены францускай паліцыяй, хоць прозьвішча забойцы ведама. Забойца Алуізо Паван выканаў прысуд шырока распаўсюджанай проціфашыстоўскай арганізацыі ў Францыі; яна складаецца з італьянскіх эмігрантаў-анархістаў. На чале гэтай арганізацыі стаіць прафэсар філёзофіі Луіджы Бэрнары, які быццам мае быць галавой усяе проціфашыстоўскае акцыі ў Францыі.

**Югаславія. Новая контрабанда аружжа.** Галосная справа контрабанды італьянскіх кулямётаў у Вэнгрыю, якую выкрыта на вэнгерска-аўстрыяцкай граніцы, яшчэ не закончылася. Тымчасам ізноў выкрыта контрабанда ваенных матар'ялаў. Югаслявянскія ўлады выкрылі новы транспарт ваенных матар'ялаў, які быў скірованы з Італіі ў Румынію.

**Нямеччына. Выбары ў нямецкі парлямэнт.** 31 сакавіка г. г. мае адбыцца апошняе паседжаньне Рэйхстагу (нямецкі сойм). Аканчальна не назначаны тэрмін новых выбараў, аднак можна прадбачыць, што выбары адбудуцца прыблізна каля 20 траўня 1928 г.

**Данія. Сьмерць першага міністра-кабеты.** У Капэнгазе памёрла Міна Банг, першая міністар-кабета ў Даніі. Міна Банг, лічыла 62 гады, яна належала да павадыроў соцыяльнай дэмакратыі. У 1924 г. уступіла ў габінэт, як міністар асьветы; на гэтым становішчы была да 1926 г.

---

### Папраўка.

Дзякуючы недагляду рэдакцыі ў № 11 „Бел. Дня" папаў артыкул, пад загалоўкам „Хто яны такія?", якому не магло быць месца на старонках „Бел. Дня", вось дзеля якіх прычын:

1) Пасьля выхаду са складу арганізацыяў, згуртаваных каля „Бел. Слова" Д-ра Паўлюкевіча, працай каторых ён кіраваў фактычна, ня можам ідэнтыфікаваць новапаўстаўшую часопісь „Грамадзянін" з нядаўна памёршым „Бел. Словам".

2) Да часу, пакуль „Грамадзянін" ня выявіў яшчэ ў поўнай меры свайго палітычнага і грамадзкага вобліку, ня маем моральнага права ня верыць у шчырасьць яго пачынаньняў.

3) Для ацэнкі моральных кваліфікацый людзей згуртаваных каля „Грамадзяніна" ня мог „Бел. Дзень" апірацца на пісьмах Л. Міцькі і Мацея Пятровіча, у якіх яны вылліваюць памы на Д-ра Паўлюкевіча і аднача сна лаюць і яго супрацоўнікаў, бо-ж пісьмы гэныя былі рэзультатам асабістых парахункаў паміж Паўлюкевічам з аднаго боку, а Л. Міцько і М. Пятровічам з другога боку і дзеля гэтага могуць зусім мінацца з праўдай.

Рэдакцыя.

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3